ЧЭХІЯ

# ПАД МОСТАМ, У СПАКОІ

### Як жывецца эліце пражскіх бяздомных

Сядзім у "дамочку" 53-гадовага бяздомнага Ладзі ды папіваем са шклянак чырвонае каробачнае віно. Ладзін сябрук Франта налягае на свіныя кавалачкі. Маленькі камін прыемна аграе пакойчык мініяцюрнага жытла, што было збудавана з будаўнічых адыходаў. Каля нас спакойна пасапвае сабака мядзвежых памераў. Звычайны адпачынак пад Лібэнськім мостам. За вокнамі з фіранкамі — мароз.

Паводле статыстыкі за апошнія 11 год у Чэшскай рэспубліцы штогод гіне ад марозу прыблізна 19 жанчын і 59 мужчын. У большасці выпадкаў — гэта бяздомныя. Цяперашняя халодная зіма з'яўляецца для іх асабліва небяспечным ворагам. Сотні людзей без даху над галавой стаяць у гэтыя дні доўгія чэргі на ложак у прытулку, але толькі меншая іх частка атрымае яго. Астатнія будуць ездзіць трамваем з канцавой да канцавой, паспрабуюць сагрэцца ў залах чакання на вакзалах альбо схаваюцца ў каналах цеплацэнтраляў і размеркавальных станцый. Але ёсць і такія, што свой бытавы крызіс вырашаюць больш вынаходліва.

### Гэта будзе іспанскай фазэндай

Ладзя, 53-гадовы бяздомны, (прозвішча, як і астатнія, прасіў не называць) збудаваў сваё жытло на галешовіцкім беразе Влтавы пад Лібэнскім мостам уласнымі рукамі за два месяцы з будаўнічых адыходаў. Месца мае ў дармавую арэнду на 10 год ад уладальніка зямлі. "Зараз гэта часовае, але як пацяплее, то буду працаваць далей. Калі-небудзь гэты домік будзе як іспанская фазэнда," — з гонарам кажа добры будаўнік і былы муляр. На драўляных сценах вісяць малюнкі ад Ёзафа Ладзі, фотаздымкі інтэр'ераў пражскага граду і Ладзявай дачкі ды каляндар з голай прыгажуняй. Над ложкам вісіць палічка, поўная кніг. "Я чытаю шмат. Пры свечцы. У асноўным гістарычныя і пра вайну." Ладзя і яго сябар Франта ў канцы 90-х гадоў страцілі працу, калі завод, на якім яны працавалі, збанкрутаваў. Франта жыве ў намёце ў лесе, але таксама пачаў нешта будаваць недалёка ад Ладзявага дамочку. "Калісьці тут будзе калёння з хацінак бяздомных," — смяюцца абодва мужыкі, з глыбокімі маршчынамі на тварах, што робіць іх яшчэ старэйшымі. Ладзя, спачатку неразгаворлівы, нарэшце пачынае распавядаць пра сваё жыццё. Складалася яно з мноства гісторый, некаторыя з іх гучалі даволі неверагодна: Ладзя хацеў з сябрамі ўгнаць самалёт Прага — Карлавы Вары, але нехта распавёў ягонай жонцы, што ён хоча пакінуць радзіму з іншай жанчынай, а тая з-за рэўнасці здала яго паліцыі. Так сеў на 28 месяцаў. Да жонкі па адсідцы вярнуўся дзеля дачкі. Развяліся толькі ў 90-я гады, пасля Ладзя згубіў працу і стаўся "ціхім бяздомным". Жыве ў асноўным з сацыяльнай дапамогі. "Усяго хапае. Маю тут боскі спакой," — тэатральна выдыхае й закладае рукі за галаву. "І бяздомны можа жыць добра, калі не лайдак і стараецца. Я і цяпер захоўваю свой жыццёвы стандарт," — дадае ён спакойна. "У Празе з галадухі не паміраюць. Ведаю, дзе што патанней. Дапамажа "Армія ратавання", "Надзея", але я дапамагаю сабе сам." Са сваіх няпоўных трох тысяч крон (прыблізна 80 даляраў) дапамогі корміць яшчэ агромністага сабаку, які выглядае як помесь аўчаркі з мядзведзем.



### Да мінус дзесяці жыць можна

Днём пазней Ладзяў сябар Франта паказаў нам сваё жытло ў лесе непадалёку ад Сміхава. "Тутака нядаўна адзін памёр," — паказвае ён па дарозе. Пераходзім за горку, і перад намі з'яўляецца намёт, які абкладзены поліэтыленам і пенапластам. "Да мінус дзесяці тутака жыць можна, але мінулую ноч спаў у сябра на падлозе, бо ўжо пачало паўставаць пытанне жыцця й смерці. Жыву тут ужо трэці год, улетку тутака добра, толькі кляшчэй шмат. Дзве зімы вытрываў, але гэтая нашмат горшая," — кажа беспрацоўны фрэзероўшчык і развешвае шкарпэткі на вяроўку. "Яшчэ вам пакажу душ і кухню," — смяецца і адводзіць да схованкі ў скалах, дзе ёсць дыванок з адтулінамі, вялікі жбан, зэдлік і каністра, поўная лёду. "Гм, дык вада ў трохі неўжывальным стане," — каменціруе свае запасы Франта. На бліжэйшых дрэвах вісяць пакеты з ежай, каб не пажэрлі мышы. Франта не можа знайсці працу з-за запісу ў рэястры пакаранняў: адседзеў за кратамі за крадзеж, пасля страціў жытло ды апынуўся на вуліцы. Ніколі не быў жанаты. Не мае нават сяброўкі. "Прабачце, але што б я мог ёй прапанаваць?" — круціць ён галавой.

### Дзядзя Пэпін пад шасэйным мостам

У лабірынтах выездаў з Прагі, пад шасэйным мостам, ёсць асяродак абгароджаных сажалак, дзе стаіць старая будаўнічая бытоўка — сёння маёмасць Ёзафа, 53-гадовага прадаўца часопіса "Novy prostor". Удалечыні відаць святло гандлёвага цэнтра "Чэрны мост" і мікрараёна. Уладальнік зямлі не гоніць Ёзафа, бо той глядзіць за сажалкамі. У іх у мінулым годзе Ёзаф запусціў карпаў. Вынаходлівы мужчына да таго ж вырошчвае пячуры (шампіньёны). "Напішыце там, што ўсё да таго, каб чалавек сам пра сябе паклапаціўся. Хай астатнія бяздомныя не скуголяць, а таксама паспрабуюць нешта знайсці," — раіць калегам з вуліцы Ёзаф. "Не бяру дапамогу, спрабую болей прадаваць часопіс і знаходзіць нейкую часовую працу. Жыву прыблізна на тры тысячы ў месяц," — кажа Ёзаф, што чакае пенсійнага ўзросту, а там ужо будзе лягчэй. "Працаваў на шахце, дык пайду на пенсію ў 55 і буду мець падтрымку ў няпоўных 6 тысяч," — радуецца ён. Перад тым, як пусціць нас у жытло, просіць пачакаць некалькі хвілін, пакуль прыбярэ. З мінулага года тут разам з Ёзафам жыве яшчэ маладзейшы сябра. У маленькай прасторы цясняцца дзве тахты, скрынкі, на паліцах стаяць пляшкі, падсвечнікі, талеркі, шклянкі, філіжанкі і мноства іншай дробязі. "Дазволілі мне падключыцца і да электрычнасці," — скіроўвае Ёзаф нашу ўвагу на электрычны чайнік. У памяшканні прыцемак і халаднеча. Ёзаф топіць газавым абагравальнікам, але мусіць эканоміць. Калі ж запаліць свечку, то цяпло выглядае хутчэй як аптычны падман. "Маю добры спальны мех і пярыну. Падымуся ў пяць раніцы, звару кавы, сагрэюся ды іду гандляваць на сміхаўскі вакзал," — прыгадвае пачатак працоўнага дня былы кухар, які больш за ўсё марыць зноў гатаваць і бачыць, "як пустыя талеркі зноў вяртаюцца да кухні." Хутка зноў, прынамсі на сезон, стане кухарам — мае дамову на працу ў Крканошах. У Празе знайсці месца з-за ўзросту не ўдалося. Калі апісвае перапэтыі з пошукам працы, вочы яго блішчаць. За тры гадзіны нашае сустрэчы пан Ёзаф распавядаў пра сваё жыццё гісторыю за гісторыяй, як дзядзя Пэпін у раманах Грабла. Перад развітаннем паказвае ў кут рукою і кажа: "На пенсіі напішу на гэтай машынцы аўтабіяграфічны раман."

**Лэнка НЭЕЗХЛЭБАВА, "Patek Lidovych Novin". Прага**

ГЕРМАНИЯ

# ЭТИ СТРАННЫЕ, СТРАННЫЕ НЕМЦЫ

**(Продолжение. Начало в №№2 — 4)**

Немцы любят посещать толкучки. Однако, наши люди там без них просто жить не могут! Вообще-то эти маркты делятся на несколько типов: трёдельмаркт — обычный базар, где продаются преимущественно новые вещи; на фломаркте продаётся всякое старьё; антикмаркт собирает любителей антиквариата и букинистической литературы... На территории школьных дворов часто устраивают киндербазары или киндермаркты. Дети и взрослые продают бэушные игрушки, одежду, мебель и т.п. Здесь не считается зазорным продавать или покупать бывшие в употреблении вещи. Всё происходит интересно и весело. Для детей — это начальная школа бизнеса. Рядом обязательно будет буфетик с горячими сосисками, чаем, хот-догами или эрбзензупэ — густым горячим гороховым супом с кусками мяса и колбасы.

"Землячок, дай марку на пиво!" Он "вычислил" меня правильно среди толпы праздношатающейся по трёделю публики. Наблюдательному человеку вычислить "русака" несложно, хоть ты оденься как стопроцентный немец. (Однажды мы спросили на улице у такого "арийца": как пройти к вокзалу? Незнакомец явно расстроился тем, что мы его так легко раскусили. Товарищ потом признался, как он определил в прохожем "русака": только наш бывший колхозник будет вот так, в "кулачок", держать сигарету.)



Обычно я прохожу мимо немецких бомжей. Всем хорошо известно, что они ежедневно получают в социаламте 13-15 марок. Этих денег достаточно на две бутылки водки (6-7 литров дешёвого вина) или на то, чтобы хорошо пообедать в недорогом китайском ресторане (шведский стол). Кстати, питание для бомжей бесплатно организуется при костёлах, кирхах, домах Красного Креста, Каритаса, Диаконии. Но этот земляк меня чем-то заинтересовал. Рослый мужик лет под 50, небритый дня три, грустные красные глаза... История моего нового знакомого оказалась простой, как лапоть. У себя в Минске бывший майор-афганец частенько выпивал, жена-немка годами терпела. Она вывезла его в Германию и через пару месяцев бросила. Он продолжал жить в квартире один и, время от времени, по старой привычке, дебоширил. Соседи пожаловались властям. Вначале его забрали на лечение и через месяц поместили в "бомжатник". Я несколько раз посещал афганца в этом заведении. "Бомжатник" на самом деле оказался уютным трёхэтажным коттеджем. Рядом находилось искусственное озерко диаметром метров 8-10 с какими-то большими красными рыбинами. Рябиновые и фруктовые деревья вокруг дома, скамеечки, ухоженные клумбы и газончики создавали ощущение покоя и умиротворённости.

В доме проживало 25-30 жильцов. Комнаты рассчитаны на одного-два человека. Было здесь несколько одиноких старичков, маленькая пенсия которых не позволяла им нанять служанку. Было несколько пожилых толстых "тихих психов". Приняв во время еды таблетки, они целыми днями просиживали в фойе или на берегу озерка. Все они лечились ранее от алкоголизма. Но основная масса жильцов — это люди среднего возраста или молодёжь, вернувшаяся из тюрьмы или наркологического диспансера. Трёхразовое питание сюда привозят из ресторана и на кухне только разогревают. На отдельном столике в столовой лежали дорогие пирожные: владелец кулинарии отдавал сюда бесплатно всё, что не раскупили за сутки.

Жильцы протирают за собой только столы после еды. На этом вся их работа в помещении заканчивается. Уборка и т.п. — всё осуществляется персоналом. Грязное бельё сдаётся на месте в прачечную.

На каждом этаже находятся уютные душевые, туалеты, комнаты отдыха с телевизором. В столовой ежедневно лежат свежие газеты и журналы. Раз в неделю выдаётся "зарплата" — 64 марки. Употребление спиртного здесь категорически запрещено, зато почти все курят как паровозы. Все имеют право свободного выхода в город, но в 22.00 ты обязан вернуться назад, т.к. дверь закрывается на ночь.

Иногда по вечерам к ним приходят несколько человек музыкантов-певцов. Под гитару, флейту они вместе поют песни своей молодости, народные песни. Раз в две недели обязательно организуется экскурсия на целый день: Музей сельской архитектуры, зоопарк в Кёльне, аэропорт во Франкфурте и т.п.

Большинство жильцов "бомжатника" работает на каком-то предприятии: то ли собирают простые электроприборы, то ли упаковывают инструменты в ящики... Одним словом — работа не сложная. Зарплату они получают небольшую — всего 400 марок в месяц (деньги перечисляют на личный счёт). Как объяснил мне герр Томас — директор этого дома, пребывание здесь должно помочь человеку плавно перейти из одного состояния в другое. Человек должен заново привыкать регулярно ходить на работу, втягиваться в трудовой ритм... Когда будет видно, что он полностью адаптировался и нет рецидивов алкоголизма и т.п., он устраивается на нормальную работу, где будет получать уже несколько тысяч марок в месяц. Он может уже вернуться к семье или снимать себе квартиру... Так что "бомжатником" подобное заведение (как это сделал мой знакомый афганец) назвать вряд ли можно. Скорее этот термин подходит к ночлежке — "убернахтунгхауз", где бомжам разрешается только переночевать, а утром их покормят горячим завтраком.

На мой взгляд, принципиальная разница в причинах появления наших и немецких маргиналов заключается в том, что там человек сам добровольно выбирает такой образ жизни, а у нас же, в большинстве случаев, наша дикая, убогая действительность с продажно-лакейским чиновничеством, с бесправной, затурканной и запуганной интеллигенцией, с полуспившимися апатичными городскими рабочими, с полностью спившейся деревней выталкивает человека на обочину жизни.

**Иван ХОХОЛ**
**(Продолжение следует)**

КЭМПО

## КОГДА АТАКУЮЩИЙ ВСЕГДА ПРОИГРЫВАЕТ

**Айкидо — один из древнейших видов японских единоборств. Он родился из кэндо — то есть фехтования на японских мечах, и представлял собой первоначально защиту от холодного оружия голыми руками.**

Основателем современного айкидо считается Уэсиба Морихэй (1883 – 1969), родившийся в семье профессионального наставника боевых искусств, принадлежавшего к старинному самурайскому роду. Глубокое знакомство с китайской и японской философией, общение с природой, поездка в Китай, но особенно встреча с проповедником новой религии милосердия Оомото стали основой его учения айкидо, что в переводе может означать "Путь гармонии с природой", или "Путь концентрации энергии Ки (духа)". Гармония, добро, красота, единение с природой – принципы Оомото – через айкидо стали распространяться по всему миру.

Любое японское кэмпо, будь то каратэ, кэндо или дзюдо, привычно ассоциируются у многих с необузданной агрессивностью. И хотя истинные сэнсэи (учителя) учат быть благородными, избегать конфликтов и не наносить удар первым, – атакующая техника превалирует над защитной, а опережающий удар, выводящий из строя, возведен в принцип.

В айкидо же совершенно отсутствует атакующая техника. Только защитная. И, попав в водоворот техники айкидо, нападающий не имеет шансов на победу. Он неотвратимо окажется на земле. Основой техники айкидо стало движение по окружности, вращение, позволяющее быстро, неожиданно и даже незаметно для противника уйти с линии атаки, вывести его из равновесия, а затем отбросить от себя по касательной в нужном направлении. Арсенал же айкидо сегодня насчитывает до десяти тысяч приемов.

В конце концов, атакующий сообразит, что все бессмысленно. В этом весь смысл айкидо. Вся защита построена с применением энергии нападающего, с минимумом своей: корректируя движение агрессора, направляя его же силу против его самого. Основной принцип айкидо – "настройка" на противника, позволяющая предчувствовать его намерения и делающая возможным выгодное использование его движений.

Уникальность айкидо еще и в том, что в нем невозможна спортивная борьба, ибо нет нападающих. Возможно лишь столкновение с атакующими видами кэмпо, но атакующий всегда проигрывает. Для айкидзина высокого дана число противников не имеет значения. С другой стороны, техника айкидо позволяет использовать движение одного атакующего для защиты от остальных. Поэтому айкидо – самое мирное и непобедимое кэмпо Востока. А победить каждый занимающийся айкидо должен прежде всего самого себя.

Тем не менее, айкидо имеет эффективное прикладное применение: ему обучаются японские спецслужбы и полиция. Ведь для полицейского умение избежать конфликта, выдержка, а в случае столкновения – способность нейтрализовать нападающего, задержать преступника – немаловажные качества.

В одном из классических трактатов айкидо говорится: "Не протився Природе и наблюдай ее законы, покоряйся им разумом и следуй телом – и ты станешь единым с ней. И тогда всякий, кто решится напасть на тебя, вынужден будет иметь дело со всей Вселенной. Мыслимо ли ему победить?"

**Валерий КОВАЛЕНКО**

ФУТБОЛ

# ШТО БУДЗЕ З "КАМУНАЛЬНІКАМ"?

**Слонімскі футбольны клуб "Камунальнік" зноў, як і ў мінулым годзе, апынуўся ў "падвешаным" стане. Камандзе самая пара распачынаць трэніроўкі, планіраваць спарынгавыя сустрэчы, шукаць новых, перспектыўных гульцоў, а за спіной дагэтуль цягнецца хвост праблем. У першую чаргу — фінансавых.**



*Трэніроўка ў спортзале мясакамбіната*

Фота Віталя ГІЛЯ

Горад яшчэ не поўнасцю разлічыўся з футбалістамі за сезон не толькі 2001 года, але і двухтысячнага. Каманду пакінула некалькі ўзроставых гульцоў, і звольніўся галоўны трэнер Леанід Савіцкі.

У такой сітуацыі трэба было б як мага хутчэй шукаць яму замену і рыхтаваць каманду да наступнага сезону, які ўжо не за гарамі. А што робіць кіраўніцтва клуба? Алег Лакцюшын нават не знайшоў часу, каб прыняць Леаніда Савіцкага, які двойчы прыязджаў у Слонім ужо ў якасці трэнера мінскага "Тарпеда", каб абмеркаваць стан спраў у "Камунальніку".

Леанід Альбінавіч і на новай пасадзе не забывае слонімскі футбол і гатовы нават дапамагчы маладымі тарпедаўскімі гульцамі.

Па сваёй ініцыятыве некаторыя крокі зрабіў загадчык аддзела спорту і турызму Слонімскага гарвыканкама Ігар Царук. Ён паспрабаваў запрасіць на пасаду галоўнага трэнера "Камунальніка" Аляксея Шубянка. Але той адмовіўся, матывуючы гэта дамоўленасцю працаваць у Магілёве.

Пакуль што трэніроўкі з камандай пачаў праводзіць другі трэнер Валянцін Гароднікаў. Больш таго, трэніроўкі амаль не перарываліся. Ды з футбалістаў на гэтых трэніроўках прысутнічаюць толькі Аначэнка, Астапчык, браты Дзегілі, Гайдзецкі, Скляр ды Боцік.

Не вырашана яшчэ і становішча гульцоў "Камунальніка", якія зараз служаць у войску. Ім дазволена трэніравацца з камандай толькі ў спортзале 11 механізаванай брыгады.

Што будзе далей – паглядзім, бо ўсе чакаюць змены кіраўніцтва горада і раёна. Але невядома, ці паўплывае гэта станоўча на лёс каманды.

**Валерый КАВАЛЕНКА**

ВОЛЕЙБОЛ

# НА ПОЛЯХ ПУСТО, В СПОРТЗАЛАХ – ГУСТО

**Пока в деревнях района относительное затишье перед посевной, отдел спорта и туризма Слонимского райисполкома проводит соревнования среди спортсменов организаций и сельхозпредприятий района.**



*В атаке команда "Сосновки"*

Фота Віталя ГІЛЯ

В минувшие выходные в спортзале Жировичского агротехнического колледжа состоялся волейбольный турнир. Выявить сильнейшего собрались шесть команд: колхозов "Дзержинского", "Октябрь", "1 Мая", совхоза "Сосновка", Новодевятковичей и горрайотдела по чрезвычайным ситуациям (ГРОЧС).

Соревнования проходили по круговой системе, при которой каждая команда должна была сыграть со всеми остальными соперниками. Игры проходили порой в упорной борьбе, о чем красноречиво говорит, допустим, счет в матче между ГРОЧС и "Сосновкой" – 30:28. Эти команды в итоге заняли третье и второе места соответственно. А победителем вышла команда колхоза "1 Мая" в составе: Григория Ешану, Николая Гулевича, Александра Санько, Виктора Назаренко, Владимира Боровика, Михаила Курьяна и Анатолия Русака. Команда-победитель получила денежный приз, а призеры были награждены вымпелами отдела спорта и туризма.

По словам заведующего отделом Андрея Заморухова, это не единственные соревнования, которые пройдут для спортсменов района зимой. В феврале планируется чемпионат по баскетболу среди школьников и турнир по мини-футболу среди взрослых.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

ПРОИСШЕСТВИЕ

# КОРБУТ ОБВИНЯЮТ В ВОРОВСТВЕ

**Знаменитая гимнастка Ольга Корбут обвиняется в магазинной краже, сообщила американская газета "Атланта Джорнал Конститьюшн".**

Журналистка газеты Бет Уоррен утверждает, что Ольга Корбут была задержана в одном из американских супермаркетов вечером 31 января.

Прославленной гимнастке вменяется в вину то, что она пыталась, не заплатив, вынести из магазина различные продукты – сыр, шоколадный сироп, инжир, специи и пачку чая – общей стоимостью около 19 долларов США. Сразу после ареста Ольга Корбут была доставлена в полицейский участок, откуда ее освободили под залог в 600 долларов США поздно вечером того же дня, сообщает "Атланта Джорнал Конститьюшн".

Ольга Корбут отвергает обвинения в свой адрес и не сомневается в том, что будет полностью оправдана. Об этом, по информации газеты, заявил адвокат гимнастки Томас Нейджел.

Как рассказала корреспонденту газеты менеджер О.Корбут Кей Уэзерфорд, Ольга считает, что охранники просто не поняли ее намерений. Спортсменка забыла кошелек в машине и собиралась выйти из магазина, взять деньги и вернуться, чтобы уплатить за покупки, утверждает Уэзерфорд. По словам менеджера, Ольга Корбут "находится в смятении", однако считает любые обвинения в свой адрес "смехотворными".

"Атланта Джорнал Конститьюшн" напоминает, что Ольга Корбут выиграла три олимпийских "золота" в Мюнхене в 1972 году. На следующей Олимпиаде в Монреале уроженка Беларуси также была удостоена золотой медали. В настоящее время 46-летняя спортсменка проживает в США и работает тренером.

**Юрий ДАВИДОВСКИЙ**

БИЛЬЯРД

## СМЕНИЛСЯ ЧЕМПИОН

**Чемпионом Беларуси 2002 года по русскому бильярду "пирамида" в высшей лиге стал 19-летний минчанин Раймонд Щелкун.**

В финале турнира, который проходил в Бресте с 31 января по 3 февраля, он со счетом 6:4 победил двукратного чемпиона Беларуси Януша Маркоцинского из Барановичей. Бронзовым призером стал минчанин Юрий Лобач.

Таким образом, Раймонд Щелкун завоевал право выступать на чемпионате мира, который пройдет в Виллингене (Германия) с 18 по 20 февраля. За оставшиеся путевки на чемпионат продолжают борьбу семеро сильнейших белорусских бильярдистов в Бресте на дополнительном соревновании.

**Маша ПЕТРОВА**

СПАРТАКИАДА

## К СЛУЖБЕ В АРМИИ ГОТОВЯТСЯ ЕЩЁ В ШКОЛЕ

**На городскую спартакиаду допризывной молодежи "Защитник Отечества" свои команды выставили все школы Слонима.**

Ребята, для которых служба в армии пока в неопределенном будущем, продемонстрировали свою готовность стать в ряды защитников Родины в троеборье: подтягивании на перекладине, стрельбе из пневматической винтовки и кроссе на 1 000 метров.

В личном зачете среди юношей 17-18 лет по сумме очков за выступление в трех видах соревнований первое место занял Дмитрий Доманович (СШ №1). Второй результат показал Николай Жилич (СШ №4), а третим стал Дмитрий Грошовкин (СШ №9). Среди 15-16-летних ребят призовые места распределились так: победил Евгений Садыков (СШ №10), второе место у Валерия Дубовика (СШ №8) и третье – у Владимира Афанасьева (СШ №9).

По результатам личного выступления всех членов команды определилась тройка призеров в общекомандном зачете. Выиграла спартакиаду команда средней школы №9, второе и третье места остались за спортсменами СШ №10 и СШ №8 соответственно.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

ФУТБОЛ

## СБОРНАЯ БЕЛАРУСИ СЫГРАЕТ С ИЗРАИЛЬТЯНАМИ

**Стали известны точные даты проведения товарищеских матчей с участием сборной Беларуси.**

16 или 17 апреля команда Эдуарда Малофеева сыграет на выезде с венграми, а 20 или 21 августа в Минске проведет матч со сборной Израиля. В то же время, Белорусская федерация футбола надеется подыскать спарринг-партнера на матч 26 или 27 марта.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

ШАХМАТЫ

## ПЕРАД ЧЭМПІЯНАТАМ ГОРАДА

**У шахматна-шашачным клубе адбыўся традыцыйны шахматны турнір.**

Перамогу ў ім адсвяткаваў Станіслаў Альховік. Другое месца дасталося Мікалаю Раманчуку, а трэцяе замацаваў за сабой Уладзімір Лекшын. Спаборніцтвы праводзіліся як своеасаблівая падрыхтоўка слонімскіх шахматыстаў да чэмпіянату горада, які адбудзецца ў лютым гэтага года. На гэтым чэмпіянаце павінна быць разыграна адзіная пуцёўка на чэмпіянат вобласці.

**Уладзімір ЛІЦЬВІН**

